# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 3 (144) 18 – 24 студзеня 2002 г. Кошт 100 руб.


## Кожны час атрымае прысуд гісторыі





Фота IREX

***У сераду, 15 студзеня, ва ўрочышчы Курапаты адбылася ўрачыстая цырымонія ўсталяваньня ад імя амэрыканскага народу памятнага знаку павагі да народу беларускага.***

***Нагадаем, што гаворка ідзе пра гранітную лаўку з высячаным на ёй адпаведным тэкстам пра беларускую трагедыю ў 1937-1939гг., усталяваную ў Курапатах падчас візыту Біла Клінтана ў Беларусь у 1994 годзе. Тут, на месцы безымянных пахаваньняў расстраляных савецкім НКВД беларусаў, прэзыдэнт ЗША меў гутарку зь Зянонам Пазьняком, тагачасным кіраўніком апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. Цягам першага адкрыцьця памятнага знаку Б.Клінтана суправаджаў старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч. Тады прэзыдэнт Клінтан зазначыў, што амэрыканцы пакланяюцца нявінным ахвярам і паважаюць прагу беларусаў да незалежнасьці і дэмакратыі.***

***Дагэтуль ня знойдзеныя вандалы разбурылі памятны знак летась, якраз перад пачаткам у Курапатах будаўнічых працаў у сувязі з "пашырэньнем менскай кальцавой дарогі". Адначасна са зьяўленьнем у Курапатах бульдозэраў там распачалася і доўжыцца пасёньня валанцёрская варта прадстаўнікоў патрыятычных моладзевых арганізацыяў. Варта прыцягнула грамадзкую ўвагу да Сьвятога месца, вымусіла ўлады пайсьці на шэраг саступак у праекце дарогі, што дае надзею на захаваньне ўрочышча менавіта як мэмарыяльнага нэкропалю беларускай памяці й пакутаў.***

***Паўторнае ўсталяваньне ў Курапатах адрэстаўраванага знаку ад народу ЗША сталася міжнародным актам падтрымкі імкненьня беларусаў да сувэрэнітэту і дэмакратыі. У працэдуры ўзялі ўдзел амбасадары Злучаных Штатаў Амэрыкі, Польшчы, Літвы, іншых заходнеэўрапейскіх краінаў. Амбасадар ЗША Майкл Козак падчас сваёй прамовы не закранаў злабадзённых праблемаў у адносінах паміж ЗША і Беларусьсю. Ён выказаў павагу да памяці людзей, што "былі зьнішчаныя не захопнікамі, а сваім жа ўрадам". М.Козак зазначыў, што толькі дэмакратыя здольная засьцерагчы народ ад правіцеляў, якія ставяць клопат аб захаваньні асабістай улады вышэй за любыя маральныя нормы і законы. Скончыў свой выступ амэрыканскі амбасадар цытаваньнем у перакладзе на ангельскую мову вершу Янкі Купалы, у якім паэт кажа аб непазьбежнай адказнасьці людзей за свае ўчынкі перад Богам і Гісторыяй...***

***Ад афіцыйнага беларускага боку ў імпрэзе ўдзельнічаў намесьнік міністра замежных справаў, што прысутны на ёй Станіслаў Шушкевіч расцаніў як "недастатковы ўзровень" для падобнага мерапрыемства.***

*Паводле інф. агенцыяў*

***Ад рэдакцыі.*** ***Варта нагадаць, што ад імя афіцыйнай беларускай улады ніякага мэмарыяльнага знаку ў Курапатах не ўсталявана. Перамовы пра магчымасьць ушанаваньня памяці людзей, забітых падчас савецкага генацыду, усё яшчэ вядуцца. Ня першы раз. Ня першы год...***

## Хто больш рызыкуе

***У цэнтры Магілёву прыватныя прадпрымальнікі мяркуюць ажыцьцявіць некалькі буйных інвэстыцыйных праектаў, большасьць зь якіх датычыцца сфэры адпачынку й спорту.***

Яны зьбіраюцца пабудаваць аква-парк, цэнтар спорту й культурна-спартовы комплекс, а таксама ўпарадкаваць прылеглыя тэрыторыі. Акрамя гэтага, бізнэсмэны рыхтуюцца, на прынцыпе долевага ўдзелу, да пабудовы вялікага крытага рынку. Усе ўладальнікі гандлёвых кропак на адкрытым рынку на стадыёне згадзіліся інвэставаць будаўніцтва сваіх новых працоўных месцаў. У выніку іх павінна быць створана больш за 2 тысячы.

Трэба зазначыць, што летась, паводле афіцыйных зьвестак, прыватнікі забясьпечылі 10-ю частку гарадзкога бюджэту – больш за 25 мільярдаў рублёў. Да таго ж колькасьць прадпрымальнікаў у вобласьці за мінулы год павялічылася, і цяпер складае 15 тысяч 300 чалавек. Гэта стала магчымым пасьля ўвядзеньня адзінай стаўкі падатку, за якую прадпрымальнікі вялі настойлівае змаганьне з уладай.

Аднак на шляху вышэйназваных праектаў адразу паўстала шмат праблемаў. Бізнэсмэны скардзяцца, што іх прымушаюць даваць грошы на будаўніцтва розных інжынэрных камунікацыяў, на разьвіцьцё й упарадкаваньне тых ці іншых тэрыторыяў – што непасрэдна да дамоўленых аб'ектаў адносінаў ня мае. Пры гэтым прыватнікі, калі ўжо ня ўдасца адмовіцца ад дадатковых унёскаў, настойваюць на тым, каб дакладна ведаць, куды сапраўды пойдуць іхныя сродкі. Нэрвуюць дзелавых людзей, якія звычайна вырашаюць свае праблемы хутка, вялікія тэрміны разгляду дакумэнтаў і ўзгадненьняў у самых розных дзяржаўных інстанцыях... Аднак пакуль дамоўленасьць паміж уладай і прыватнікамі застаецца.

*Ганна ЮРЧАНКОВА*

## Тэлефон, сьвятло, ацяпленьне...

***Старшыні Свабоднага прафсаюзу будаўнічага трэсту №12, муляру Аляксею Паўлоўскаму пагражае звальненьне з працы.***

А.Паўлоўскі на мінулым тыдні атрымаў яшчэ адно папярэджаньне. Яго абвінавачваюць у "парушэньні працоўнай дысцыпліны". Паводле меркаваньня адміністрацыі, ён сышоў з працы раней вызначанага часу. Да гэтага яму неаднойчы аб'яўлялі вымовы, напрыклад, летась «за дрэнную ўкладку пліткі».

Лідэр Свабоднага прафсаюзу будаўнічага трэсту №12 вядомы сваімі заявамі й выступамі ў абарону правоў працоўных. Даволі рэзка крытыкаваў ён кіраўніка трэсту Браніслава Ваксмана. ("ТМ" паведамляў аб тым, як рабочыя на чале з спадаром Паўлоўскім наладзілі пікет непасрэдна ў будынку аблвыканкаму, – патрабавалі ліквідаваць запазычанасьць па заробках).

А напярэдадні новага году прафсаюзны лідэр, па ягоных словах, засьпеў некаторых кіраўнікоў трэсту ў службовым кабінэце за калектыўным адзначэньнем надыходзячага сьвята. Можа, гэта і стала апошняй кропляй начальніцкага цярпеньня да занадта прынцыповага абаронцы працоўных правоў. Сыгналам да свайго выстаўленьня з трэсту А.Паўлоўскі лічыць тое, што ў ягоным прафсаюзным памяшканьні без папярэджаньня адключылі тэлефон.

*Алесь СЕРДЗЮКОЎ*

◆



## Пачнецца ад сьвята Каханьня

***Абвешчана, што адмысловая акцыя Маладога Фронту пад заклікам "Беларусь – у Эўропу" будзе адбывацца цягам 3-х месяцаў і ахопіць 110 гарадоў краіны.***

Распачнецца акцыя 14-га лютага, у дзень Сьвятога Валянціна.

Паводле лідэра МФ Паўла Севярынца, "Беларусь – у Эўропу" возьме старт адначасна ў 40 гарадах. Самыя розныя мерапрыемствы Акцыі, якая мае засьведчыць імкненьне беларускай моладзі жыць у аб'яднанай вольнай Эўропе, будуць адбывацца штодня ў гарадах Беларусі (рухаючыся з усходу на захад) цягам 92-х дзён. Такім чынам яны павінны ахапіць 110 гарадоў. Гэта будуць мітынгі, пікеты ў падтрымку беларускай інтэграцыі ў эўрапейскія структуры, розныя грамадзка-культурыя імпрэзы ды спартовыя спаборніцтвы.

Адметна, што ў некаторых эўрапейскіх сталіцах – Вільні, Варшаве, Празе й Брусэлі – тамтэйшымі беларусамі, палітычнымі ўцекачамі, а таксама мясцовымі арганізацыямі, якія маюць стасункі з МФ, заплянаваныя акцыі салідарнасьці зь беларускай моладзю ў выглядзе пікетаў каля амбасадаў РБ і ўстановаў Эўрапейскага Зьвязу.

*Альгерд НЕВЯРОЎСКІ*

**P.S.** *Магілёўскія маладафронтаўцы актыўна падтрымалі ідэю акцыі і ўжо распачалі да яе падрыхтоўку. Зьміцер Букатаў, які зь нядаўняга часу ўзначальвае мясцовую арганізацыю МФ, паведаміў, што будзе ўсё зроблена для таго, каб дэманстрацыі мелі мастацкае аздабленьне і былі прывабнымі для ўсіх маладых гараджанаў. Магілёўцы таксама акажуць дапамогу ў падрыхтоўцы імпрэзаў сваім сябрам у раёнах.*



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**У вобласьці створана інфармацыйна-кансультацыйная група, якую па распараджэньні ўраду і Адміністрацыі ўзначаліў Міхаіл Аўласевіч, колішні рэктар нашага пэдінстытута, а цяпер – “член Савета Рэспублікі”. Група з начальнікаў і далучаных дэпутатаў, інтэлігентаў, навукоўцаў будзе распавядаць у працоўных калектывах і па месцах жыхарства пра тое, як людзям трэба правільна разумець дзяржаўную палітыку й свае жыцьцёвыя парамэтры. А тут шмат недасьведчаннасьці і неразуменьня. Прыкладам, не атрымлівае працоўны чалавек своечасова свайго заробку, а хто ў тым вінаваты – ня ведае і не разумее. Альбо кіруе чалавек раёнам і нават ордэн за тое атрымлівае – і раптам супраць яго заводзіцца крымінальная справа. Зноў людзі ў роспачы. Цяпер усё і ўсім даходліва растлумачаць і пераканаўча абгрунтуюць.**

Праграма сусьветна вядомай арганізацыі дапамогі “маладым дэмакратыям” TACIS была гатовая, як сталася нядаўна вядома, выдаткаваць 4000 даляраў ЗША на падтрымку бізнэс-праекту, мэта якога – падтрымка магілёўцаў-інвалідаў. Да гэтага праекту мела намер далучыцца й абласная служба занятасьці. Але, як гаворыцца, пытаньне зачыненае, бо ўлада не падала зьвестак аб тых самых інвалідах і іхным магчымым удзеле ў згаданым праекце. Хто ведае, чаму – можа не пасьпела з-за занятасьці, можа ганарыста вырашыла ўвогуле не прымаць замежнай дапамогі. А можа, у нас тых інвалідаў і няма зусім?..

**Летась камітэт Дзяржкантролю “вярнуў” вобласьці ажно 3,4 мільярды рублёў у выглядзе спагнаньняў, штрафаў, прымусовага пакрыцьця за кошт вінаватых стратаў, якія панесьлі ад іх установы, ведамствы, прадпрыемствы і арганізацыі. Сума, што й казаць, салідная. Аднак радавацца пільнасьці кантралёраў ня хочацца. Здаецца, што калі не вылечваць прычыны шматлікіх эканамічных парушэньняў, а тое й злычынстваў – можна “накапаць” гэтых парушэньняў, колькі скажуць. Эканоміка ад гэтага лепш не запрацуе, людзі больш багатымі ад гэтага ня стануць. Аднаго можна будзе дасягнуць у грамадзтве: страху, пасыўнасьці, лянoты, абыякавасьці. Мяркуючы па “выяўленых мільярдах”, рэзэрв дзелавітасьці і ахвоты працаваць яшчэ ня вычарпаны, але – недзе блізка, бо ўсьлед за штрафамі пайшлі арышты і псыхіятрычныя экспэртызы (тое днямі адбылося з арыштаваным нядаўна дырэктарам менскага “Атланту”).**

У магілёўскім падлеткавым клюбе “Эдэльвэйс” адбылася пэрсанальная выстава мастака, 16-гадовага Сяргея Кісялёва. Але ўзрост – не адзіная дэталь, якая вымушае абавязкова распавесьці пра гэтую імпрэзу. Юнак з дзяцінства цяжка хварэе, некалькі гадоў ня мог самастойна рухацца. Афіцыйныя органы адукацыі маглі прапанаваць бацькам толькі накіраваньне хлопчыка ў “спэцшколу”. Аднак бацькі не здаліся, пра што можна распавядаць асобна. І вось на сёньня Сяргей – вучань звычайнай школы і мастацкай. У абедзьвюх праяўляе творчыя здольнасьці.

**Магілёўскі тэхналягічны інстытут у хуткім часе намерыўся стацца чарговым у нас унівэрсытэтам. Як быццам, усё фармальнае для таго ёсьць: патрэбная колькасьць прафэсараў, дактараў, кандыдатаў. Але нешта замінае верыць у тое, што адначасна зь пераходам на вышэйшую прыступку будзе ўзьнятая й якасьць студэнцкага навучаньня. Той самы прафэсар з заўтрашняга дня пачне лепш вучыць? Лябараторыя з тым самым абсталяваньнем пачне даваць студэнту большую прастору для творчасьці?.. Хаця, канешне, гучыць прыгожа: Магілёў – горад унівэрсытэтаў.**

Абласная бібліятэка пайшла на пашырэньне платных паслугаў. Цяпер нават запісаньне ў бібліятэку будзе каштаваць 5 тыс. рублёў. А што зробіш, калі бюджэт бібліятэку ўтрымаць ня ў стане. Нават заробкі гарантаваныя толькі на 85 адсоткаў, камунальныя выдаткі – на 14%. Храм чалавечай мудрасьці, як справядліва называюць бібліятэкі, вымушаны з уласных даходаў аплочваць набыцьцё новых паступленьняў, ахову, некаторыя іншыя патрэбы.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Кaму вераць амэрыканцы

90% амэрыканцаў маюць давер да рэлігійных служкаў, 88% – да пэдагогаў, 84% – да дактароў. Далей у сьпісе: прэзыдэнт ЗША (79%), паліцэйскія (78%), прафэсары (77%), навукоўцы (76%), судзьдзі (75%), звычайныя людзі (74%), цывільныя служачыя (71%), старэйшыя афіцэры (67%), вядучыя теленавінаў (54%), сацыёлягі (51%), журналісты (49%), бізнэсмэны (43%), сябры Кангрэсу (42%), прафсаюзныя лідэры (37%).

*Паводле Harris Interactive*

## Могуць адвярнуцца канчаткова

***Паміж Беларусьсю і Захадам насьпявае чарговы канфлікт, – лічыць кансультант нямецкага МЗС Аляксандар Рар.***

Паводле А.Рара, праўдападобна, што Эўропа нарэшце зразумела: неабходныя крокі афіцыйнага Менску ў бок ЭўраЗьвязу так і ня будуць зробленыя. Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў падавалася (і такія сыгналы зыходзілі з афіцыйнага Менску), што Лукашэнка нібыта мае намер наблізіць Беларусь да эўрапейскіх стандартаў. Але цяпер сталася зразумелым, цьвердзіць сп.Рар, “што нічога ў сваёй палітыцы ён не зьмяняе”.

Нямецкі палітоляг мяркуе, што надзвычай неспрыяльным і складаным выглядае сам фон разьвіцьця беларуска-эўрапейскіх стасункаў. Напрыклад, ніяк не вырашаецца пытаньне адносна прызначэньня новага кіраўніка місіі АБСЭ ў Беларусі. Беларускія ўлады настойваюць на зьменах у мандаце гэтай місіі, жадаючы пераўтварыць яе ўплыў на краіну ў пустую фармальнасьць. Эўропа ў сваю чаргу заклапочаная скандальнымі публікацыямі ў заходнім друку адносна таго, што Беларусь незаконна пастаўляе зброю арабскім краінам.

“Пазыцыя ЭўраЗьвязу накіраваная на тое, каб дапамагчы ўмацаваць сувэрэннасьць Беларусі, стварыць у ёй моцную эканамічную сыстэму, прывабную для інвэстыцыяў, – кажа А.Рар. – Калі ж у Беларусі ўмацуецца аўтарытарны рэжым, а ў той жа час у Расеі ўсё больш выразна праявяцца прыкметы дэмакратычнага ўраду, то Захад будзе ўскладаць свае надзеі наконт разьвіцьця падзеяў у Беларусі выключна на Расею”.

***Алена ПАНКРАТАВА***

## ...Нават і не разглядаецца

***Беларусі няма ў сьпісе постсавецкіх краінаў, для якіх урад ЗША сёлета плянуе адмяніць гандлёвыя абмежаваньні.***

Адміністрацыя Джорджа Буша заклікае Кангрэс дазволіць 8-мі былым савецкім рэспублікам вызваліцца ад абмежаваньняў, што былі ўведзеныя яшчэ ў камуністычныя часы. Размова ідзе пра так званую папраўку Вэніка-Джэксана да гандлёвага акту 1974г., паводле якой гандлёвыя адносіны з замежнымі краінамі наладжваліся ў залежнасьці ад іх эміграцыйнай палітыкі. У першую чаргу меўся на ўвазе Савецкі Саюз, які перашкаджаў габрэйскай эміграцыі.

Пазьней ЗША пачалі трактаваць гэтую папраўку ў пашыраным сэньсе, ставячы гандлёвыя адносіны з новапаўсталымі краінамі ў залежнасьць ад іх прагрэсу ў захаваньні правоў чалавека і пабудове рынкавай эканомікі. У мінулым годзе абмежаваньні былі зьнятыя з Кыргызстану і Грузіі. У блізкім часе да іх маюць быць далучаныя Азэрбайджан, Армэнія, Украіна, Малдова, Таджыкістан, Казахстан, Туркмэністан і Ўзбэкістан. Безумоўна, што пэўны уплыў на рашэньне Белага Дому аказала кампанія барацьбы зь міжнародным тэрарызмам, падтрымка якой з боку сярэднеазіяцкіх краінаў вельмі важная.

Але, як паведамляе газэта The Washington Post, адмену гандлёвых абмежаваньняў *нават не мяркуецца зрабіць для Беларусі* – пакуль тут існуе аўтарытарны рэжым і пастаяна парушаюцца правы чалавека. Газэта адзначае, што па словах сябраў амэрыканскай адміністрацыі, Беларусь да таго ж не прапанавала ніякай рэальнай дапамогі краінам антытэрарыстычнай кааліцыі.

Тым часам шэраг міжнародных і амэрыканскіх праваабарончых арганізацыяў пратэстуюць супраць адмены гандлёвых абмежаваньняў для некаторых краінаў. Яны зазначаюць, што сытуацыя з правамі чалавека ў Туркмэністане і Ўзбэкістане, напрыклад, нічым ня лепшая за беларускую.

***Паводле інф. агенцыяў***

## Друкаваныя грошы эканоміку не ратуюць

***Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў інфляцыя ў Беларусі была менш за 1%. Верасьнёўская ж інфляцыя перавысіла 2%, кастрычніцкая – 3,5%, лістападаўская – 4,5%, а інфляцыя ў сьнежні склала 5,5%.***

Днямі стала вядома пра зацьверджаную Саветам Міністраў і Нацбанкам праграму “рэальнага падвышэньня попыту эканомікі краіны на грошы ў 2002-м годзе”. У гэтай праграме сьцьвярджаецца, што летась “адбылося ўзмацненьне макраэканамічнай і фінансавай стабілізацыі”.

Аднак былы старшыня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч мае зьвесткі, што цягам навагодніх сьвятаў адбылася вельмі буйная эмісія беларускіх рублёў – прасьцей кажучы, зноў надрукавалі грошы, якія не забясьпечаныя ростам вытворчасьці і паслугаў. Зроблена гэта было для таго, каб бюджэтнікам выплаціць заробкі.

Спадар Багданкевіч бачыць непасрэдную сувязь паміж перадвыбарчымі абяцаньнямі Лукашэнкі й цяперашнім усплёскам інфляцыі. Прафэсар лічыць, што “рэзка павялічылася доля гэтак званых гарачых грошай – у зьвязку са штучным падвышэньнем заробкаў, з папулісцкім рашэньнем выхаду на 100 даляраў”. Аднак сярэдні заробак у $100 за месяц – “гэта непасільнае заданьне для цяперашняй беларускай эканомікі”. Экскіраўнік Нацбанку кажа, што цяпер больш за траціну ўсіх прадпрыемстваў Беларусі стратныя, а яшчэ адна траціна – маларэнтабэльныя. Прамысловасьць працуе “на склад”, а калі й прадае прадукцыю, дык найчасьцей са стратамі для сябе. Усе гэтыя чыньнікі сьведчаць пра тое, што ў першым паўгодзьдзі гэтага году можна чакаць буйнога фінансавага крызысу.

Пры гэтым сапраўдная інфляцыя ў краіне будзе на ўзроўні як мінімум удвая вышэйшым, чым гэта закладзена ў дзяржаўныя бюджэтныя разьлікі.

***Юры СЬВІРКО***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ



***Паводле традыцыі, у студзені раённыя дэпутаты зацьвярджаюць прагнозныя паказчыкі сацыяльнага і эканамічнага разьвіцьця рэгіёну на наступны год і аналізуюць здабыткі года папярэдняга.***

Асаблівай радасьці здабыткі не выклікаюць. Па некаторых пазыцыях летась эканоміка раёна ледзь-ледзь уклалася ў запланаваныя фарматныя рамкі, а па некаторых – не дасягнула іх. Тым ня менш, як засьведчыла сэсія, дэпутаты праявілі зайздросны аптымізм, зацьвердзіўшы далейшае павелічэньне вытворчасьці прамысловай прадукцыі ў бягучым годзе на 4,5 адсоткі, а выпуску спажывецкіх тавараў – на 3,5%. Што да аграпрамысловага комплексу, то тут яны пайшлі яшчэ далей, нібы й ня ведаюць рэальнага стану вёскі, якая ўсе апошнія гады трывала зьніжае свой патэнцыял ды ідзе да банкруцтва.

***Дзесяці ўладальнікам жыльля ў райцэнтры камунгас вырашыў адмовіць у сваіх паслугах.***

Гэтая “карная” мера выкліканая вялікай запазычанасьцю гаспадароў кватэраў перад камунгасам. Гаворачы прасьцей, гэтыя людзі даўно ня плоцяць за кватэру, газ і цяпло. Яшчэ 6-ці кватэранаймальнікам камунгас накіраваў папераджальныя выканальныя лісты, а 32-м – апошнія пісьмовыя папярэджаньні.

***Дырэкцыя раённага Цэнтру творчасьці і вольнага часу школьнай моладзі адмовіла мясцоваму краязнаўчаму таварыству ў магчымасьці праводзіць у сваіх сьценах заняткі народнага Ўнівэрсытэту.***

Раней, аднак, лекцыі народнага Ўнівэрсытэту спакойна адбываліся там штотыдзень. Многія ахвотна іх наведвалі, замест пустога бадзяньня па цёмных вуліцах. Адміністрацыя ўстановы, выстаўляючы за парог краязнаўцаў, спаслалася на нейкі галіновы дакумэнт, які нібыта забараняе (!) цэнтру культуры прадастаўляць свае памяшканьні для дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

# Інэрцыя падзеньня

***Хваля "дырэктарскіх арыштаў" ня можа пакінуць грамадзтва абыякавым і староньнім. Тым больш, што афіцыйныя асобы, дырэктарскія калегі, дэпутаты ўсіх узроўняў лічаць за лепшае "ня ўмешвацца" і маўчаць. Шараговы люд пры гэтым гатовы паверыць ва ўсё, што прагучыць з экрану БТ, паколькі ніякіх іншых камэнтароў ня чуе і ня ведае... "ТМ" прапануе адзін з такіх камэнтароў.***

***Ніжэй мы публікуем адаптаваную для газэты гутарку, якая прагучала днямі па радыё "Свабода" з удзелам намесьніка старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ Юрыя Беленькага і прэзыдэнта Беларускага Саюзу прадпрымальнікаў Аляксандра Патупы.***

*– Як можна патлумачыць сутнасьць апошніх акцыяў улады?*

**Патупа:** Тое, што зараз адбываецца – гэта відочны крах усёй эканамічнай стратэгіі нашага кіраўніцтва ў цэлым, ягонай аднабаковай арыентацыі на Расею, на расейскі рынак. І наш дырэктарскі корпус адказвае сёньня за сваё калябаранцтва ў гэтай эканамічнай палітыцы. Што тычыцца канкрэтных арыштаў, то трэба адцеміць наступны факт: літаральна ўсе дырэктары інтэнсыўна працавалі менавіта з Расеяй. Таксама відавочна, што мы маем вельмі крыміналгенную сытуацыю. Таму што калі ўсе законы, дэкрэты, указы мець на ўвазе, то ўвогуле немагчыма рэалізоўваць гаспадарчую дзейнасьць! Мінімум 20% законаў даводзіцца парушаць, і таму кожны кіраўнік прадпрыемства, як і кожны прадпрымальнік, мае вельмі вялікі шанец трапіць у сьледчы ізалятар.



**Беленькі:** Мне давялося працаваць на пасадзе начальніка фінансавага аддзелу аднаго зь менскіх заводаў з 86-га да 95-га году. На гэтай пасадзе я захапіў і савецкую сыстэму, і гарбачоўскую перабудову, і нават пачатак кіраваньня Лукашэнкі. Сьведчу, што ў сярэдзіне 90-х гадоў пачаўся аб'ектыўны разварот беларускай эканомкі на Захад. Прычым адбывалася гэта не па загаду, а ў сувязі з эканамічнай мэтазгоднасьцю з абодвух бакоў. Аднак доўжылася тое нядоўга. Вось прыклад. Калі Лукашэнка загадаў разварочвацца ў бок Расеі, наш дырэктар заводу атрымаў загад дасягнуць пэўнага аб'ёму прадукцыі, але выключна праз стасункі з Расеяй. Была закупленая дарагая, але няякасная камплектацыя. Зь яе былі зробленыя такія ж дарагія й няякасныя машыны, і доўгі час яны стаялі пад плотам на заводзе. Нарэшце, атрымаўшы эмісійныя крэдыты, плата за якія была ніжэй за ўзровень інфляцыі, завод прадаў машыны ў тую ж Расею. Фактычна, праз тую інфляцыю завод тады (нагадаю: гэта толькі адзінкавы прыклад) абрабаваў усё беларускае грамадзтва.

*– Але калі вядома, што халадзільнікі з "Атланта", трактары з МТЗ прадаваліся ў асноўным у Расею, то навошта спатрэбілася "рэзаць курыцу, якая нясе залатыя яйкі"?*

**Патупа:** Беларуская эканоміка з 96-га году ўвайшла ў антырынкавую, адміністрацыйна-камандную фазу. Таму драпежна-рынкавыя гаспадарчыя сыстэмы, якія існуюць вакол нас, робяць з намі што хочуць. Пытаньне ня ў тым, колькі халадзільнікаў ці трактараў адпраўляецца ў Расею, але ў тым, якія грошы ўдаецца за іх атрымаць. Высьвятляецца, што альбо вельмі малыя, альбо зусім ніякіх! У гэтых умовах мы ня толькі ня маем канкурэнтаздольнай прадукцыі, але і ў пэрспэктыве ня можам яе мець. І ня маем інвэстыцыяў – вось, уласна кажучы, адкуль крах. Як яго патлумачыць людзям? Зразумела, як: ва ўсім вінаватыя дырэктары!



Дарэчы, нельга пакідаць без увагі прававы аспэкт апошніх арыштаў. Узгадайце: прагучала адкрытая і непасрэдная "устаноўка" сьледчым органам. Ня першы раз. Раней былі "банкіры", цяпер – "дырэктары". Відавочна, што гэта – палітычная замова рэжыму: каго "браць". Дадайце сюды тое, што судзьдзі ў нас таксама ня маюць незалежнага стану. І нарэшце, нельга абыйсьці ўвагай так званыя "сьледчыя ізалятары". Дырэктар прадпрыемства трапляе ў жудасныя ўмовы да сапраўдных крымінальнікаў. Дай Бог кожнаму не зламацца ў гэтых умовах...

*– Цяжка з гэтым не пагадзіцца. Але, здаецца, што за чарговай спробай з боку ўлады нагнятаньня страху ў грамадзтве бачны й страх самой улады. Яна, такое ўражаньне, баіцца Расеі, якая можа эканамічна поўнасьцю паглынуць Беларусь...*

**Беленькі:** Гэта так. Калі расейскія інвэстары "кладуць вока" на наша пэўнае прадпрыемства, то пачынаюць ужывацца сапраўды крымінальныя мэтады. Напрыклад, яны пачалі актыўна даводзіць кліентам Менскага падшыпнікавага заводу, што ён вось-вось збанкрутуе (а ён працуе якраз даволі добра) і таму, маўляў, ня трэба зь ім мець справы. Адначасна яны вялі перамовы аб сваім магчымым інвэставаньні ў гэты ж завод. Вядома, што новыя гаспадары, як гэта заўсёды робяць мэтраполіі ў адносінах да сваіх калёніяў, адразу ж скасуюць сацыяльныя праграмы. Мы гэта бачым там, дзе захоп беларускай уласнасьці расейскім крымінальным капіталам ужо адбыўся. І тут не павінна быць ніякіх ілюзіяў: рабочым ад гэтага дабра ня будзе. Як, зрэшты, і рэжыму, і самому Лукашэнку, бо пасьля захопу беларускай уласнасьці Расеяй рэальнай улады ён пазбавіцца. Адбудзецца гэта тады, калі наша эканоміка зусім лясьне.

**Патупа:** Сёньняшняя сытуацыя – вельмі сур'ёзная. Размова ідзе пра сцэнар так званага "зачыненьня Беларусі" – і для Ўсходу, і для Захаду. Напрыканцы сьнежня ў Расеі нагул забаранілі бартэр. У выніку для Беларусі атрымалася свайго роду пастка бяз выйсьця. Зразумела, што яна існуе як на ўзроўні вышэйшай улады, так і на ўзроўні беларускіх дырэктараў. Пабудова дагэтуль незразумелага "адзінага саюзу" шпарка вядзе да таго, што Беларусі прыйдзецца плаціць сувэрэнітэтам. І вось гэтая "пэрспэктыва" вызначае цяпер і палітычныя, і эканамічныя рухі кіраўніцтва краіны.



***Віталь ТАРАС***
**Фота IREX**

# Адна з апошніх надзей

***Шэраг вядучых польскіх газэтаў зьмясьцілі матэрыялы, у якіх распавядаецца пра зварот жонак зьніклых беларускіх палітыкаў да прэзыдэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Нагадаем, што раней яны пасьлядоўна і цярпліва, але пакуль безвынікова, зьвярталіся непасрэдна да Лукашэнкі і Пуціна, Філярэта і Алексія, Салжаніцына, а таксама ў шмат якія міжнародныя арганізацыі.***

"Мы, жонкі беларускіх апазыцыйных дзеячаў, ведаючы спадара Прэзыдэнта як прыхільніка дэмакратычных каштоўнасьцяў, зьвяртаемся з просьбай аб дапамозе. Просім у часе спатканьня з прэзыдэнтам Пуціным, пры магчымасьці, закрануць пытаньне пра тых апанэнтаў беларускага рэжыму, якія загінулі, зьніклі ці знаходзяцца зараз у турмах...", – цытуе ліст Людмілы Карпенкі, Вольгі Захаранкі, Зінаіды Ганчар, Ірыны Красоўскай, Сьвятланы Завадзкай і Тацяны Клімавай Gazeta Wyborcza. Побач з цытатамі са звароту газэта зьмясьціла таксама кароткія зьвесткі пра зьніклых ды асуджаных беларускіх апазыцыйных палітыкаў.

Іншае ўплывовае выданьне Zycie падало камэнтар Першага сакратара польскай амбасады ў Менску Марка Буцько, які адзначыў, што польскае дыпляматычнае прадстаўніцтва даўно ўтрымлівае кантакты з падпісанткамі звароту. Паводле спадара Буцько, польская амбасада таксама шматкротна дамагалася ў беларускіх уладаў згоды на наведваньне ў турмах беларускіх вязьняў сумленьня.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***

Ад рэдакцыі. Як нам вядома на дзень выпуску гэтага нумару "ТМ", падчас спатканьня ў Варшаве Квасьнеўскага з Пуціным пазначаная вышэй тэма не закранулася. Магчыма, што больш падрабязная інфармацыя на гэты конт паступіць днямі з польскага друку. Тады й пададзім яе.

## ШТО НА ТЫДНІ... У ДРЫБІНЕ



***Мікалай Юркоў, былы дырэктар мясцовага саўгасу, які пасьля прэзыдэнцкіх выбараў быў зьмешчаны з пасады і зьехаў працаваць у Расею, сустрэў Новы год зь сям'ёй у Дрыбіне.***

М.Юркоў прыехаў з чувацкай сталіцы Чэбаксары, дзе ён ачольвае карпарацыю "Агросоюз". Спадар Мікалай патлумачыў, што карпарацыя аб'ядноўвае некалькі чувацкіх сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Цяпер ён працуе над тым, каб лепш скаардынаваць іхную працу ды прадугледзець эфэктыўнае крэдытаваньне. Маючыя быць атрыманымі крэдыты, дарэчы, – недзяржаўныя.

Паводле назіраньняў М.Юркова, у расейскай сельскай гаспадарцы і, у прыватнасьці, чувацкай, ужо пачаўся павольны ўздым. У адрозьненьне ад беларускай, туды пайшлі інвэстыцыі...

***С.М.***

ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ



## Пад сваім дахам

У Горках адбылася прэзэнтацыя офісу мясцовага грамадзкага інфармацыйнага цэнтру. Падзея тым больш прыемная, што новы офіс – вынік намаганьняў і працы саміх горацкіх грамадзкіх актывістаў.

На імпрэзу сабраліся прадстаўнікі тутэйшых грамадскіх ініцыятываў, а таксама сябры, партнэры і паплечнікі зь іншых раёнаў і абласнога цэнтру. Адзінай афіцыйнай прамовай падчас мерапрыемства быў выступ кіраўніка ГІЦ Віктара Каралькова, які распавёў кароткую, але цікавую біяграфію гэтай грамадзкай ініцыятывы, што мае для рэгіёну немалую значнасьць. Горацкіх калегаў віталі і ўручылі ім сьціплыя падарункі з нагоды ўлазінаў госьці з Асіповічаў, Шклову, Дрыбіна, Магілёву.

Далей была цікавая мастацкая праграма, падрыхтаваная мясцовымі талентамі адмыслова для гэтай імпрэзы. Потым гаспадары і госьці разам танчылі, сьпявалі, частаваліся прысмакамі, якія ўласнаручна падрыхтавалі прыгожыя сяброўкі Горацкага інфармацыйнага цэнтру.

*Фота С.Глазштэйна*



“НАВІНКІ САМВЫДАТУ”

## Доктары апошняга слова не сказалі

***“Апошні раз, шаноўныя чытачы бюлетэню, мы сустракаліся з вамі на старонках “Калегаў” у жніўні. Нагадаем, што па выніках апытаньня мэдычнай грамадзкасьці горада працяг выданьня бюлетэню быў прызнаны патрэбным і карысным. Чарговы ягоны нумар вы й трымаеце ў руках”.***

Гэта цытата з уступнага артыкулу старшыні магілёўскага “Лекарскага саюзу”, доктара Сяргея Кунцэвіча. Сапраўды, вычарпаўшы атрыманыя ад амэрыканскага фонду “Counterpart” сродкі на выданьне 3-х нумараў “Калегаў”, мэдычнае асяродзьдзе горада засталося без свайго грамадзка-прафэсійнага бюлетэню. Выданьне было прыхільна ацэненае лекарамі, сярэднім пэрсаналам і ўпраўленьнямі аховы здароўя горада і вобласьці. Кіраўніцтва “Лекарскага саюзу”, паколькі доктары Магілёва пажадалі й надалей мець надзейную прафэсійную крыніцу інфармацыі, праявіла кемлівасьць і знайшло магчымасьць для працягу свайго выдавецкага праекту.

Рэдакцыйны калектыў ачоліў доктар Васіль Аўраменка (вядомы, дарэчы, чытачам “ТМ у якасьці цікавага аўтара артыкулаў ня толькі на прафэсійныя тэмы).

Новы нумар “Калегаў” утрымлівае аналітычныя, праблемныя, вострыя матэрыялы магілёўскіх доктараў розных спэцыяльнасьцяў, але й дае магчымасьць перавесьці дыханьне на старонцы гумары. Адметнасьцю нумара ёсьць таксама вялікая колькасьць паведамленьняў у рубрыцы “Навіны сусьветнай мэдыцыны”, цікавыя ня толькі прафэсіяналам галіны, але і ўсім, хто дбае пра сваё здароўе.

Празь бюлетэнь “Лекарскі саюз” абвяшчае конкурс на вядучых тэлепраграмы па праблемах аховы здароўя, якую мае намер распачаць (сумесна з “ЛС”) “2 канал”. Ёсьць у нумары запрашэньне да супрацоўніцтва ў іншых пытаньнях. На бягучы год запланаваная багатая дзейнасьць...

Жыцьцё лекарскага грамадзкага аб’яднаньня, дарэчы, адзінага падобнага ў нашай краіне, працягваецца. Доктары яшчэ далёка не сказалі свайго апошняга слова.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па грамадзка-сацыяльных праблемах***



НОВОСТИ МИРОВОЙ МЕДИЦИНЫ

разрушающего действия токсической субстанции на цнс-мишени, миоциклин блокирует NO-индуцированную смерть нейронов). Недостатком метода являются большие дозы препарата ввиду плохой проницаемости через ГЭБ.

*В эксперименте* воздействие на крупные опухоли комбинацией из химиотерапевтического средства и анаэробных бактерий приводит к значительной регрессии опухоли. Суть – разрушение анаэробными бактериями некротических/слабо-васкуляризированных зон крупных опухолей, обычно недосягаемых для классических противоопухолевых препаратов. Терапия получила название комбинированной бактериолитической (COBALT - combination bacteriolytic therapy). Наиболее перспективным представляется штамм Clostridium novyi.

*Два исследователя* из биоинженерной группы Вашингтонского университета открыли новые чудодейственные свойства древнекитайского средства – экстракта из артемизии, более известного как червь-дерево. Древние медики использовали артемизинин для лечения малярии, а современные – для лечения рака молочной железы, поскольку артемизинин убивает раковые клетки за 16 часов.

*Упражняя мозг* (только думая о выполнении физического действия) здоровый и физически крепкий человек имеет шанс нарастить и укрепить мышцы. Положительные результаты получены при мысленной тренировке небольших - пока - мышц плеча и предплечья в сравнительном исследовании учеными из кливлендской Clinic Foundation.

*Респираторные вирусные инфекции* сопровождаются повышенной продукцией гистамина, – таковы данные последних исследований. В эксперименте с инокуляцией респираторного вируса (подпороговые количества, не вызывающие заболевания) у человека развивается гипергистаминурия (максим. - 2-5-й дни) в той же мере, что и при аллергических состояниях. Старая добрая практика применения супрастина при простуде оказалась весьма мотивированной.

*Подготовлено А. Столиным, Могилёвская областная больница*

28

*Падводзячы вынікі мінулага году, уваходзячы ў новы год ...*

Заканчваецца 2001 год, з ім і першы год дзейнасці нашага грамадскага аб’яднання. З аднаго боку першы год самы складаны, але з другога – штосьці было зроблена.

Самай першай нашай публічнай акцыяй стаў семінар для калег горада “Ультрагукавая дыягностыка ўргентных станаў”. Неабходна адзначыць, што падтрымку ў яго правядзенні аказаў начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама У.Мартыноўскі. Вёў семінар галоўны хірург С.Батоўскі. Вялікае ўражанне на прысутных зрабілі выступленні вядучага спецыяліста краіны А.Федарука з Мінска і нашага доктара медыцынскіх навук А.Кушнярова (НДІЭПП). Яны прадэманстравалі шырокія магчымасці ўльтрагука ў дыягностыцы і малых інвазіўных умяшальніцтва.

Практычна з моманту стварэння мы наладзілі партнёрскія адносіны з грамадскімі аб’яднаннямі “Кола сяброў” і “Жаночым цэнтрам падтрымкі самаадукацыі”. Менавіта разам з імі мы працавалі ў “Дзіцячым праекце”. Д.Сарокін (МСЧ “Хімвалакно”) на працягу некалькіх месяцаў праводзіў заняткі з падлеткамі па гігіене, узаемадапамозе, небяспецы шкодных звычак.

У красавіку мы перамаглі ў конкурсе, абвешчаным фондам Каунтэпарт Інтэрнэшнл. Дзякуючы выдзеленаму гранту пачалі ствараць медыцынскую бібліятэку (адказны С.Волкаў – абласная бальніца), правялі шэраг сустрэч з калегамі, пачалі выдаваць бюлетэнь.

Выданне бюлетэня “Калегі” з’явілася важнай падзеяй і ў дзейнасці нашай арганізацыі, і, хочацца верыць, у медыцынскім жыцці Магілёва. Прыемна адзначыць, што станоўча адгукнуліся на гэту ініцыятыву кіраўнікі ўпраўленняў аховы здароўя. Калі ў першыя нумары прыходзілася актыўна шукаць матэрыялы для паблікацый, то трэці нумар ужо не мог змясціць усе паступіўшыя ў грамадскую рэдкалегію

29

## ...Як ты мне мілы

***Пабачыў сьвет другі нумар экалягічнага бюлетэню “Родны край”.***

Асаблівасьць выданьня ў тым, што яго робіць вучань аднаго з магілёўскіх ліцэяў Максім Кавалёў. Хлопец стаўся ўжо пераможцам нацыянальнага конкурсу вучнёўскіх працаў пасьля таго, як у траўні мінулага году выдаў першы нумар бюлетэню, наклад якога быў 7 асобнікаў. Сёлетні нумар заклікае да паважнага стаўленьня да прыроды й прысьвечаны Міжнароднаму дню запаведнікаў. Дарэчы, наклад узрос да 30-ці асобнікаў і, як кажа Максім, цяпер бюлетэнь змогуць прачытаць ня толькі ягоныя сябры, але й іншыя актывісты мясцовага экалягічнага руху.

Для ўсіх цікаўных падаем каардынаты бюлетэню: Магілёў, вул.-Сіманава, 69-74, тэл. 41-82-62, e-mail: rodny_kraj@mail.ru

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## Плён прынясе яднаньне

***Міжнароднае грамадзкае аб’яднаньне “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” пачало стварэньне базы дадзеных беларускай нацыянальнай спадчыны за мяжой.***

Туды ўвойдуць зьвесткі пра навучальныя ўстановы, музэі, цэрквы, помнікі культуры і архітэктуры, бібліятэкі, пэрыядычныя выданьні, фірмы і прадпрыемствы, якія заснаваныя і ўзначальваюцца беларусамі. Усю сабраную інфармацыю плянуецца разьмясьціць у Інтэрнэце.

Зараз па-за межамі Краю жыве блізу 3-х мільёнаў беларусаў. Самая вялікая колькасьць – больш за мільён чалавек – у Расеі, блізу 600 тысячаў – у ЗША, 400 тысяч – на Украіне. У Польшчы жыве каля 300 тысячаў беларусаў. Жывуць беларусы таксама ў Паўднёвай Амэрыцы і Афрыцы, у Аўстраліі й Ізраілі, іншых краінах.

59 аб’яднаньняў беларускай дыяспары зьяўляюцца супольнымі сябрамі ЗБС “Бацькаўшчына”, якое кантактуе больш чым з 200 беларускімі арганізацыямі ў сьвеце. Трэба нагадаць, што асноўнай статутнай мэтай згуртаваньня ёсьць выхаваньне ў беларусаў нацыянальнай сьвядомасьці, а таксама яднаньне іх у адзіную духоўную, арганізацыйную ды эканамічную супольнасьць.

***Паводле BARC-List***



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 3. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 17.01.2002 г. а 17.10